

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня!*
*М. Багдановіч.*

№ 1 (147), СТУДЗЕНЬ 2013 ГОДА


ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## РАБОТА ШУКАЕ ЧАЛАВЕКА, А ЧАЛАВЕК ЗАРОБКІ

**Галоўнай праблемай шумілінскай эканомікі застаецца негатыўная тэндэнцыя: рынак працы пашыраецца, а працоўныя рэсурсы змяншаюцца. Афіцыйная прапанова свабодных вакансій ужо стала амаль у тры разы вышэй колькасці беспрацоўных. Працягваецца адток рабочай сілы і за межы раёна.**

Здавалася б, мінулі ў раёне тыя часы, калі людзі трывожыліся за страту працоўнага месца пад пагрозай скарачэння. З вакансіямі было складана, а па асобных спецыяльнасцях ці прафесіях – увогуле ніякіх шансаў. На сённяшні дзень сітуацыя змянілася. Але навісла іншая пагроза: выбар рабочых месцаў ёсць, але жадаючых іх заняць не знаходзіцца, як з ліку беспрацоўных, так і з ліку зацікаўленых працаўнікоў.

Нягледзячы на тое, што ў раёне за мінулы год створана 123 рабочыя месцы, колькасць занятага насельніцтва скарацілася на 249 чалавек. Маюцца звесткі аб 11830 чалавек працаздольнага насельніцтва, але на рынку працы занята каля 9 тысяч работнікаў. 2800 чалавек "растварыліся" у пошуках вольнага хлеба і выпалі з поля зроку мясцовых органаў улады. Інакш чым растлумачыць той факт, што даволі значная колькасць рабочай сілы апынулася па-за сферай эканомікі раёна?

Паводле афіцыйных лічбаў напрыканцы года патрэба ў кадрах перавышала 220 чалавек, у той час як колькасць зарэгістраваных беспрацоўных складала 78 чалавек. Безумоўна, гэтыя лічбы не адлюстроўваць рэальнага становішча с кадрамі ў раёне. Ніхто не вядзе ўлік гэтак званага схаванага беспрацоўя. Многія грамадзяне пакінуты на волю лёсу, бо станавіцца на ўлік у цэнтры занятасці няма сэнсу – дамамога па беспрацоўю чыста сімвалічная. Таму многія знаходзяць занятак самі.

Прынамсі, арганізацыі раёна заманьваюць прэтэндэнтаў на працоўныя месцы стабільнымі заробкамі і сацыяльнымі гарантыямі, але дэфіцыт у кадрах адчуваецца ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі раёна. Па-ранейшаму найбольш запатрабаваныя ў нашым раёне рабочыя спецыяльнасці. Пры гэтым самы вялікі попыт ў найбольш буйных прамысловых гаспадарках і арганізацыях раёна. Да прыкладу, Обальскі керамічны завод мае заяўкі на 25 чалавек – гэта вадзіцелі, машыністы бульдозера і экскаватара, цесляры і сталяры, муляры,тынкоўшчыкі. Жыллёва-камунальнай гаспадарцы не хапае 18 вакансій: слесары, лесарубы, машыністы кацельні і экскаватара, рамшчыкі. Вакансіі рабочага профілю ёсць у Шумілінскім ПМК.

Адчуваецца дэфіцыт кадраў у спецыялістах-медыках. Шумілінскай райбальніцы патрабуюцца 10 урачоў, пяць фельчараў, тры медсястры. Амаль палову вакансій прапануе сельская гападарка. На сяле асабліва востры дэфіцыт спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. Практычна ўсе гаспадаркі запрашаюць на пасаду галоўнага ветурача, галоўнага заатэхніка, інжынера, агранома, бухгалтара.

Аднак і ў аграгарадкі спецыялісты не спяшаюцца. Што тычыцца памеру заробкаў,то яны ў параўнанні нават з сярэднеабласнымі зусім сціплыя. Так, сярэдні заробак па Віцебшчыне дасягнуў адпаведна толькі 3 млн. 243 тыс. рублёў. Пры ўсім тым, што сярэдняя зарплата на Шумілініпчыне за студзень-кастрычнік склала 2 млн. 506 тыс. рублёў. Самыя нізкія заробкі спецыялістаў у сельгаспрадпрыемстве "Ляжні" і "Прыдзвінскі". Ветурачам, заатэхнікам і аграномам прапануюць усяго ад 1 млн.800 тыс. да 2 млн. рублёў. Для параўнання: з 1 студзеня 2013 года месячная мінімальная зарплата ўстаноўлена ўрадам у памеры 1 млн. 395 тыс. руб. Як бачна з аналізу, зарплата з'яўляецца своеасаблівым паказчыкам той пашаны, што выказвае ўлада да той ці іншай прафесіі. Зыходзячы з гэтага, ніводны варты павагі ветурач ці заатэхнік на чыста сімвалічную мінімалку не пакваліўся. А дзе ж тыя 3 мільёны 840 тыс. рублёў, якія павінны былі выплаціць паводле абяцанага сярэдняга заробку на Шумілінпчыне старшынёй аблвыканкама А. Косінцам? Тэндэнцыя ў параўнанні з мінулымі гадамі толькі адна: раён пакідаюць найбольш адукаваныя і маладыя спецыялісты. Рэкламуюць і абяцаюць заробкі ў 500-580 долараў, а насамрэч па вакансіям і зарплаце па раёну ў доларавым эквіваленце іх сярэдняя велічыня складае толькі ад 240 да 340 долараў.

**Аляксандр Шчамлёў.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

## Вытворчасць мясцовых відаў паліва

Новая ўстаноўка для вытворчасці паліўнай шчапы паступіла на баланс камунгаса. Яна дазволіць больш эфектыўна выкарыстоўваць мясцовыя віды паліва і знізіць затраты на энергетычныя рэсурсы ва ўмовах росту цэн.

Неабходнасць наладзіць вытворчасць паліўнай шчапы ўласнымі сіламі наспела ў раёне даўно. Тым больш, што на шчапу пераведзены мясцовыя кацельні ў Обалі і Шуміліне. Каб забяспечыць кацельні мясцовымі відамі паліва, камунгасу неабходна было арандаваць здрабняльныя машыны ў іншых раёнах. Аднак магутнасцей усё роўна не хапала, і шчапу закуплялі за межамі раёна.

Новая ўстаноўка – перасоўны рубільны комплекс уяўляе сабой магутны энерганасычаны трактар МТЗ-1523 з маніпулятарам і прычапным здрабняючым агрэгатам. Тэхніка дарагая, каштуе 1,7 мільярдаў рублёў. Між тым спецыялісты падлічылі, што за кошт вытворчасці шчапы можна штодзень эканоміць да 1,5 мільёнаў рублёў. Драўніну для шчапы камунальнікі нарыхтоўваюць уласнымі сіламі ў лясгасе. Можа перапрацоўвацца кустоўе, сучча, адходы ад распілоўкі лесу. Яшчэ адна перавага: мабільнасць установкі.

Ёсць меркаванне, што паліўная шчапа — ідэальнае паліва, зыходзячы з цаны і цеплааддачы, для абагравання вытворчых памяшканняў, напрыклад, рамонтных майстэрняў, невялікіх адміністрацыйных будынкаў і, нават, індывідуальнага жылля. Шумілінічына толькі пачынае рухацца ў гэтым накірунку. Ёсць спадзяванні, што райкамунгас будзе нарошчваць спажыванне мясцовых відаў паліва і надалей закупляць спецабсталяванне для іншых кацельных райцэнтра, каб з адходаў дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў, апілак і той жа шчапы атрымоўваць больш танную цеплаэнергію.

**У. Амбросаў.**

**Шаноўны чытач!**
**Адкажыце, калі ласка на наступныя пытанні. Запоўненую анкету перадайце ў рэдакцыю. Вялікі дзякуй за дапамогу!**

Адказваючы, пазначце варыянт(ы).

*1. Ці задавальняе вас змест газеты?*
- так, цалкам
- так, па большай меры
- так, але з вялікімі агаворкамі
- хутчэй няма, чым так
- не задавальняе

*2. Вы чытаеце газету некалькі гадоў. Сёння газета стала:*
- цікавей, змястоўней
- менш цікавай і змястоўнай
- засталася на ранейшым узроўні
- цяжка сказаць

*3. Ці павінны, па-вашаму, змяніцца афармленне і змест газеты, якім чынам? (Можна выкарыстоўваць не больш трох варыянтаў адказу)*
- змест павінен быць вастрэй
- не хапае фактаў і добрай аналітыкі
- трэба больш ілюстрацый, фатаграфій ці карыкатур
- трэба больш пісаць аб простым народзе
- трэба больш карыснай, даведачнай інфармацыі
- не хапае конкурсаў
- не хапае анекдотаў
- трэба павялічыць колькасць старонак у газеце

*4. Прапануем ацаніць па шкале 5 балаў нашы газетныя рубрыкі*
*Рэгіянальныя матэрыялы:*
- Погляд рэдактара
- У цэнтры ўвагі
- Крымінал
- Вырашым праблему
- Нашы земляки
- Наша спадчына
- Жыві як гаспадар
- Культурная падзея
- Кніга скаргаў
- Тэрыторыя дабра
- Спартыўная навіна

ВАЙСКОВАЯ СЛУЖБА

## ЗАБОР МОЛАДЗІ Ў ВОЙСКА З ДАПАМОГАЙ МІЛІЦЫІ

**На апошнім пасяджэнні прэзідыума райсавета была ўзнята праблема прызыву ў войска. Ваенны камісар раёна паведаміў аб шматлікіх выпадках парушэнняў закона "Аб усеагульным воінскім абавязку і воінскай службе."**

Нягледзячы на тое, што недахопу ў прызыўніках няма, значная частка шумілінскіх юнакоў ігнаруе позвы ваенкамата. Ніводная прызыўная кампанія не абыходзіцца без парушэнняў з боку прызыўнікоў. Па розных прычынах моладзь абыякава ставіцца да тэрміновай вайсковай службы. Паводле дакладу ваеннага камісара Алега Чарняўскага, ёсць яшчэ нямала маладзёнаў, якія ўхіляюцца ад пастаноўкі на ўлік. Да правапарушальнікаў чыноўнікі былі вымушаны прымяніць караючыя меры ўздзеяння. Так, у 2012 годзе да адміністрацыйнай адказнасці прыцягвалася 45 чалавек, у тым ліку 20 чалавек – за няяўку без уважлівых прычын на прызыўны пункт. На аднаго прызыўніка заведзена крымінальная справа. Цяпер работнікам шумілінскай міліцыі рэкамендавана больш актыўна займаца ўхілістамі, па азначаных пытаннях прыняты адпаведныя пастановы. Бо з усяго відаць, што райваенкамат самастойна выканаць план па прызыву ў войска ўжо няздольны. Як высветлілася, воінскі ўлік вядзецца лепш за ўсё у Дабейскім, Мікалаёўскім сельсаветах, на Обальскім керамічным заводзе, а горш – сельгаспрадпрыемстве "Мішневічы".

Варта адзначыць, што мясцовыя ўлады разгарнулі даволі шырокую дзейнасць па гэтак званаму ваенна-патрыятычную выхаванню школьнікаў. Аднак па-сутнасці, метады гэтай работа не змяніліся з савецкіх часоў. Дагэтуль 13 выкладчыкаў у школах праводзяць дапрызыўную падрыхтоўку. Аднак занятки ў асноўным праходзяць тэарэтычна, а практычных заняткаў са зброяй няма – недастатковая матэрыяльная база ў школах.

Чаму шумілінскія хлопцы не гараць жаданнем абуць жаўнерскія боты? У якасці галоўных прычынаў маладзёны часцей гаварылі пра тое, што гэты час можна правесці з большаю карысцю для сябе. Дый імідж саветызаванага войска РБ у вачох маладога пакалення – не самы лепшы. Да таго ж многія мяркуюць, што ніякіх перспектываў пасля вайсковай службы ні ў нашым раёне, ні ў краіне няма.

Самі работнікі ваенкамата падчас прызыўной кампаніі прычыны ўхілення ад вайсковай службы ніяк не каментуюць. Дарэчы, у Генеральнай пракуратуры Беларусі адзначаюць, што за апошнія пяць снізілася колькасць злачынстваў, звязаных з ухіленнямі ад вайсковай службы. Асноўнымі прычынамі ўхілення ад вайсковай службы чыноўнікі бачаць у "асабістай недысцыплінаванасці і безадказнасці правапарушальнікаў, слаба развітым пачуцці вайсковага і грамадзянскага доўгу". На сайце Міністэрства абароны вызначаюць колькасць ухілістаў ад агульнай колькасці прызыўнікоў у межах 2%. Аднак статыстыка па асобам, якіх не могуць знайсці і прыцягнуць да адказнасці за ўхіленне, не публікуецца. Па ўсяму бачна, што сапраўдная колькасць ухілістаў значна большая, чым лічбы афіцыйнай статыстыкі.

**Алесь Шумскі.**

КРЫМІНАЛ

## АБАКРАЎ КВАТЭРУ

3 студзеня ў 9 гадзін у Шумілінскі РАУС звярнулася непрацуючая 1971 года нараджэння, з заявай аб тым, што пасля распівання спіртных напояў у кватэры здзейснены крадзёж двух мабільных тэлефонаў і 400 тыс. рублёў. Нанесены ўрон на суму 1 млн. 650 тыс. рублёў. Папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейсніў рабочы, які знаходзіўся ў гасцях, раней судзімы за крадзеж. Супраць яго ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 205 ч. 2 КК.

## МАЛАДЗІЦА НАПАЛА НА ПЕНСІЯНЕРКУ

Мясцовая пенсіянерка сумесна з непрацуючай аднавяскоўкай 1983 года нараджэння распівала спіртныя напоі. Пасля чаго маладзіца з ужываннем фізічнай сілы адкрыта выкрала з яе кватэры 400 тысяч рублёў і 40 долараў ЗША. Заведзена крымінальная справа па артыкуле 206 ч. 2 КК. Выкрадзенае канфіскавана.

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ СТАНОВІШЧА

# Бюджэт раёна трэба выканаць з прафіцытам

**Менавіта такі наказ даў шумілінскім чыноўнікам кіраўнік раёна Уладзімір Куранны на пасяджэнні 29-й сесіі райсавета, на якой падводзілі вынікі работы народнай гаспадаркі за 2012 год. Старшыня райвыканкама ўпэўнены, што гэта заданне на павышаныя паказчыкі ў бюджэце пасільныя, калі прадукцыйнасць працы вырасце больш, чым у два разы, а прафіцыт бюджэту магчымы не 1,4 мільярды рублёў ад запланаванага, а болей за 8 мільярдаў.**

Накірунак дзейнасці на больш чым высокія паказчыкі для Шумілiншчыны выбраны не выпадкова. Перадусім новапрызначаны на пасаду старшыня райвыканкама абяцаў вывесці раён у лідэры вобласці па асноўных эканамічных паказчыках. Да таго ж высокую планку па зарплаце давёў зверху кіраўнік вобласці Аляксандр Косінец. Аднак ход выкання прагнозных паказчыкаў напрыканцы 2012 года падстаў для аптымізму не ўнушае.

Даныя сведчаць аб тым, што за студзень-лістапад 2012 года з 17 паказчыкаў, устаноўленых рашэннем Савета дэпутатаў у пачатку года, выканана толькі 9. Гэта паказчыкі рэнтабельнасці продажу ў арганізацыях сельскай гаспадаркі, рознічнага таваараабароту, увода ў эксплуатацыю жылля за кошт усіх крыніц фінансавання, тэмп росту экспарту тавараў арганізацый і інш.

Начальнік фінансавага аддзела А. Сідарэнка паведаміла, што за студзень-лістапад 2012 года ў бюджэт раёна паступіла 47 мільярдаў 129 мільёнаў рублёў, а расходы бюджэту за 11 месяцаў склалі 136 мільярдаў 605,5 мільёна рублёў. Разам з тым у рэспубліканскі бюджэт было паступленняў на 26 млрд. 398 млн.руб., у абласны – 2 млрд. 978 млн. руб. Бюджэт з большага захаваў сваю сацыяльную накіраванасць. У прыватнасці, расходы на сацыяльна-культурную сферу склалі 92 мільярды 692,9 мільёна рублёў, ці 67,6% у аб'ёме бюджэту. Звычайна зыходзяць з таго, штоэфектыўная эканоміка складваецца з умення весці гаспадарку такім чынам, каб даходы пераважалі над расходамі. Як аказалася, многія ў раёне працаваць з прыбыткам яшчэ не навучыліся. Каб мець сродкі, разам з рацыянальным выкарыстаннем матэрыялаў і рэсурсаў не менш важна быць гібкім у рэалізацыі прадукцыі і паслуг. Калі не навучыцца як след працаваць і гандляваць, дык хаця здолелі захаваць вытворчую і сацыяльную структуру. На рынку працы за мінулы год стварылі 120 новых рабочых месцаў, а ўзровень афіцыйнага беспрацоўя застаўся на адзнацы 0,8%.

У ходзе пасяджэння дэпутаты абмеркавалі прагнозныя паказчыкі і бюджэт на 2013 год. Асаблівая ўвага павінна быць звернута на забеспячэнне росту даходаў грамадзян на 28,4% да ўзроўню 2012 года, а гэта каля 6 млрд. звышпланавых паступленняў. Як і ў папярэднія гады, бюджэт 2013 года будзе мець высокую сацыяльную накіраванасць. На сацыяльна-культурныя мерапрыемствы будзе выдаткавана да 70% яго даходнай часткі.

**Я. Вайтовіч.**

ГРАМАДСТВА І СЯМ'Я

# КАМІСІЯ СЛЯЗАМ НЕ ВЕРЫЦЬ

**У першай дэкадзе студзеня адбылося першае ў гэтым годзе пасяджэнне камісіі па справах непаўналетніх пад старшынствам намесніка супрацоўніка райвыканкама Анатоля Зайцава. На гутарку былі запрошаны бацькі і дзеці, якія парушылі грамадскі парадак.**

Быць выкліканым на пасяджэнне такой камісіі сёння радасць невялікая. Праўда сама структура за апошнія гады перажыла значныя змены, перайшоўшы ад метадаў караючых і запалохваючых да метадаў тлумачальных і выхаваўчых. Вось і на гэты раз былі заслуханы тлумачэнні асоб, прозвішчы якіх трапілі ў міліцэйскія пратаколы па факту правапарушэнняў, у тым ліку звязаных з ужываннем алкагольных напіткаў. Часам неспрыяльныя сем'і чымсьці падобныя адна на другую. Спачатку нарастаюць праблемы па меры ўзмацнення залежнасці да алкаголю, затым бацькі забываюць дагледзець сваіх родных дзяцей, потым дзяржава забірае сацыяльных сірот у прытулак.

Адна маладая жанчына, якая мела пяцера дзяцей (двое ўжо знаходзіліся ў Обальскім прытулку) працягвала бестурботна кроцыць па жыцці. То працавала, то звальнялася. Увесь сэнс жыцця звёўся да чаркі гарэлкі ды пагулянак. За чатыры месяцы ніводнага разу не наведала дзяцей у прытулку. Ды і куды іх вяртаць, калі ў хаце пануе антысанітарыя? Горамаці пусціла слёзы, якія ліюцца тут нярэдка, наракала на тых, хто не дапамог зрабіць рамонт, а ўшчуванні членаў камісіі за легкадумныя паводзіны выклікалі ў яе абурэнне. Другая грамадзянка была закадзіравана ад алкагольнай залежнасці некалькі разоў. Аднак больш паўгода не вытрымлівала – зрывалася, зноў запівала і шукала прыгод. Двое дзяцей заставаліся без нагляду. Ужо каторы раз клялася перад камісіяй кінуць піць і ўзяцца за розум. Яшчэ адна маці, пакінуўшы траіх малалетніх дзетак (самаму меншаму год і чатыры месяцы) састарэлай і хворай бабулі, з'ехала на некалькі сутак у суседні раён. Калі прыгразілі адабраць дзяцей, зноў паліліся слёзы.

Цяжкім быў дыялог з выкліканымі на пасяджэнне камісіі рабятамі, якім па 16-17 гадоў. Яны бяруць прыклад з дарослых і стараюцца быць падобнымі на іх. Толькі гэтае падабенства назіраецца ў антысацыяльных паводзінах. Часцей за ўсё парушальнікамі дысцыпліны становяцца навучэнцы вучылішчаў. Адчуўшы сябе дарослымі, яны цягнуцца да чаркі. Адзін хлопец настолькі ўцягнуўся ў п'янку, што бацькі падпісалі заяву аб прымусовым лячэнні юнака ад алкагалізму. Другі семнаццацігадовы хлопец, які выхоўваўся без бацькі, у нязвязлым выглядзе дамагаўся дзяўчыны. Маладзён трымаўся самаўпэўнена, было відаць, што фармальная гутарка наўрад ці дапамагла ўсвядоміць сваю віну. Хлопцам далі шанс на выпраўленне. Застаецца спадзявацца, што яны паставяцца да гэтага сур'ёзна, нарэшце ўладкуюць сваё жыццё. І зразумееш, што жыццё – не дзіцячая гульня, яно ідзе па сваіх законах, парушыўшы якія, заўсёды прыйдзецца адказваць. Найперш перад людзьмі, перад уласным сумленнем.

**Алесь Прыбярэжны.**

*Агульнанацыянальныя матэрыялы*
Галоўная падзея
Праблемы эканомікі
Сацыяльныя пытанні
Дэмакратычны рух
Дасягненне
Наша ўлада
Свет пра Беларусь
Усходні сусед
Неабходна рубрыка (ваш варыянт)

*5. Як ставіцца да газеты маладое пакаленне вашай сям'і?*
чытае часта
чытае часам
наогул не чытае

*6. Ці ёсць у вас давер да нашых матэрыялаў?*
так, заўсёды
так, часта
ёсць, але зрэдку
няма наогул

*7. Задавальняе вас мова і стыль нашых аўтараў, манера журналістаў газеты падаваць інфармацыю?*
так, заўсёды
так, у асноўным
так, але рэдка
пішуць залішне мудрагеліста
пішуць для прастакоў
наогул нічога не падабаецца

*8. Якія матэрыялы вы лічыце прыярытэтнымі ў газеце:*
грамадска-палітычнай тэматыкі
эканамічныя тэмы
сацыяльнай тэматыкі
інфармацыйна-пазнавальныя
даведкавыя

*9. Паведаміце, калі ласка, ваш пол:*
мужчынскі
жаночы

*10. Паведаміце, калі ласка, ваш узрост:*
17-25 гадоў
26-36 гадоў
37-47 гадоў
48-60 гадоў
61 і старэй

*11. Якая ваша адукацыя?*
вышэйшая
незакончаная вышэйшая
сярэдне-спецыяльная
сярэдняя

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

# АБЯЦАНАГА ТРЫ ГАДЫ ЧАКАЮЦЬ

**Жыхары шматкватэрных дамоў па вуліцы Зялёнай з вёскі Сіроціна некалькі месяцаў пішуць скаргі ў розныя інстанцыі, адстойваючы сваё права на чыстую ваду. Аднак чыноўнікі пакуль што абмяжоўваюцца адпіскамі. А няякасная вада па-ранейшаму паступае ў кватэры.**

Асноўная прычына дрэннай якасці пітной вады – зношанасць камунікацый і водаправодных сетак. У Сіроціне шматпавярховыя дамы і асноўныя сацыяльныя аб'екты былі пабудаваны яшчэ ў савецкія гады і безнадзейна састарэлі. На сённяшні дзень пітная вада, што паступае ў кватэры шматпавярховак – бурая, з непрыемным пахам, няўзброеным вокам бачна яе нездавальняючая якасць па арганалептычных паказчыках. Як высветлілася, жыхары данай вуліцы карысталіся пітной вадой з двух свідравін праз водапанапорную вежу і водаправод. Дзесяцігоддзямі там не праводзіўся капітальны рамонт, акрамя таго, што латалі дзіркі ў аварыйнай сітуацыі. Вяскаваму люду нарэшце надакучылі перабоі з пітной вадой і праблемы з яе якасцю – пасыпаліся калектыўныя звароты мясцоваму начальству.

А хваляванні іх цяпер недарэмныя: канкрэтнай інфармацыі аб прынятых мерах, акрамя чарговых абяцанак-цацанак чыноўнікі не даюць. Так, яшчэ ў пачатку лістапада мінулага года скаржнікам паступіў сціплы па змесце ліст ад дырэктара сельгаспадаркі "Сіроцінскі" С. П. Басава. Сяргей Пятровіч у сваю чаргу саслаўся на адсутнасць фінансавых сродкаў у гаспадарцы. А гэта азначае, што работа па прафілактычнай ачыстцы воданапорнай вежы зроблена не будзе. На іншыя запыты ў камунгас таксама былі адпаведныя адпіскі. Маўляў, грошай не стае, а брыгады па ачыстцы калодзежаў у Шуміліне няма ( вяскоўцы прасілі яшчэ ачысціць студні, каб у крайнім выпадку спажываць калодзежную ваду). Зрэшты, у ходзе валакіты ўспылі недапрацоўкі арганізацый, якія павінны адказваць за камунальныя паслугі у вёсцы. Калі насамрэч у лістах, раней атрыманых жыхарамі ад дырэктара Сяргея Басава паведамлялася, што мясцовая гаспадарка вырашыць праблему з вадой, то цяпер аказалася, што гэта абяцанне павінен быў даваць камунгас. Інжынерная інфраструктура, у прыватнасці, дзве свідравіны: адна належыць сельгаспадарцы "Сіроцінскі", а другая разам з воданапорнай вежай – Шумілінскаму УП ЖКГ. Тая, што належала гаспадарцы – ужо не працуе, а з другой "камунгасаўскай" і паступае дрэнная вада. Атрымалася сітуацыя, як кажуць у народзе, Іван ківае на Пятра, а Пётр на Івана. Пакуль два ведамствы разбіраюцца каму рабіць рамонт, праблема не вырашаецца, а людзі пакутуюць. У выніку атрымліваецца, што былы саўгас спіхнуў бядотную спадчыну на камунгас, які не мае сродкаў на рэканструкцыю, а дырэктар сельгаспадаркі зацягнуў справу – літаральна "вадзіў за нос" жыхароў шматпавярховак адпіскамі і пустымі абяцанкамі. У рэшце рэшт хранічную праблему водазабеспячэння пералажылі на жыллёва-камунальную гаспадарку раёна: яго начальнікам вырашаць – адмоўчвацца далей, або тэрмінова прыступіць да рамонту водаправодных сетак і воданапорнай вежы.

**С. Горкі.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# ЧОРНЫЯ СПІСЫ КАМУНАЛЬНЫХ ДАЎЖНІКОЎ

**Многія жыхары Шумілiншчыны не могуць своечасова аплачваць камунальныя паслугі. Спіс даўжнікоў-кватэраздымшчыкаў расце з года ў год. Больш эфектыўна змагацца са злоснымі неплацельшчыкамі за камунальныя паслугі дазволіць заканадаўства, якое ўступіць у дзеянне з 2 сакавіка бягучага года.**

У Шумілінскіх камунальнікаў назапасілася ўжо нямала метадаў барацьбы з тымі жыхарамі, якія моцна завінаваціліся па частцы аплаты камунальных паслуг. Неплацельшчыкам адключалі электрычнасць, цяпло і ваду, канфіскавалі маёмасць праз суд за няўплату запазычанасці за кватэру.

Цяпер нас усіх чакае шмат перамен у рабоце жыллёва-камунальнай гаспадаркі, але бадай, што самымі радыкальнымі яны будуць у дачыненні да даўжнікоў.

На дапамогу кіраўнікам УП ЖКГ распрацаваны закон, паводле якога хранічныя неплацельшчыкі, якія маюць пратэрмінаваную запазычанасць па камунальных разліках, могуць быць выселены нават і з прыватызаваных кватэраў. У адпаведнасці з артыкулам 86 новага Жыллёвага кодэкса наймальнік жылога памяшкання дзяржаўнага жыллёвага фонду і пражываючыя з ім члены яго сям'і, якія маюць без уважлівых прычын шасцімесячную запазычанасць па аплаце за жыллёва-камунальныя паслугі і аплаце за карыстанне жыллёвым памяшканнем, падлягаюць высяленню ў судовым парадку.

Хто лічыцца неплацельшчыкам? Гэта грамадзянін, які не ўнёс плату за камунальныя паслугі за справаздачны месяц да 25 чысла наступнага месяца. Жыхары, якія маюць запазычанасць да трох месяцаў, – хутчэй за ўсё трапляюць у спіс неплацельшчыкаў выпадкова. Звычайна за 1-3 месяцы яны ўносяць патрэбную плату. Безумоўна, камунальнікі не сядзяць склаўшы рукі, а пастаянна нагадваюць неплацельшчыкам пра неабходнасць выконваць свае абавязкі. Хто яны, гэтыя злосныя неплацельшчыкі? Малазабяспечаныя людзі, пенсіянеры ці проста тыя, хто замест таго, каб разлічыцца за камунальныя паслугі, бяжыць украму па "чарніла"?

Калі прааналізаваць спіс даўжнікоў, то атрымліваецца, што асноўную масу неплацельшчыкаў складаюць усё ж працуючыя грамадзяне, якія маюць пастаянны даход. За імі – нядобранадзейныя сем'і і на апошнім месцы – беспрацоўныя і малазабяспечаныя. Некаторыя дапускаюць запазычанасць проста па прычыне вялікай занятасці. У многіх пенсіянераўдаўжнікоў ёсць забяспечаныя дзеці. Дарэчы, калі ўсё ж з запазычанасцю за паслугі ЖКГ грамадзянін не зможа справіцца самастойна, то яму можа быць прадстаўлена дзяржаўная адрасная сацыяльная дапамога, да якой трэба звярнуцца ў райвыканкам.

Новы Кодэкс дазваляе высяляць з кватэры пры наяўнасці запазычанасці больш за шэсць месяцаў. Толькі ў райцэнтры ў спіс грамадзян, якія сістэматычна ўхіляюцца ад платы за жыллёва-камунальныя паслугі ўнесена 43 чалавекі. Крыху менш неплацельшчыкаў у гарпасёлку Обаль і іншых населеных пунктах. Пры гэтым тэрмін запазычанасці ў большасці перавышае шэсць месяцаў, да таго ж сума пратэрмінаваў з кожным месяцам расце. Некаторыя людзі маюць доўг ад 6 млн. рублёў да 10 млн. і болей. Так што кандыдатаў на высяленне хапае, ужо састаўлены спісы і рыхтуюцца адпаведныя дакументы. У мінулыя гады судовыя справы сканчаліся высяленнем з кватэраў дзесяткаў тых даўжнікоў, якія не плацілі гадамі, або псавалі жыллё.

**Алесь Прыбярэжны.**

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# КОРМИТЬ НУЖНО ЛУЧШЕ

УХОДЯЩИЙ ГОД ДЛЯ БЕЛАРУСИ – ВОЗВРАТ, ТАК СКАЗАТЬ, В ДОАЛЕКСАНДРОВСКУЮ ЭПОХУ.

Не в смысле в долукашенковскую, в ней мы как раз сейчас и находимся с разной степенью уютности.

А именно в эпоху до Александра II – до отмены крепостного права. Президент Беларуси своим декретом №9 восстановил право руководителей предприятий деревообрабатывающей отрасли удерживать работников на месте до тех пор, пока это нужно предприятию. Так и в контрактах велено записать: «На период модернизации производства». И на словах добавил: а убегут – вернуть и насильно на то же рабочее место.

Можно сказать – самое историческое событие для Беларуси в этом… как его… говорят, что в 2012 году. Но насчет даты я все-таки не слишком уверен.

Юрьев день, когда мужик был вправе сменить хозяина, был отменен мудрым русским правителем Борисом Федоровичем Годуновым. И он сам, и семья его отошли в мир иной при трагических обстоятельствах. В общем, счастья Годуновым эта мера не принесла.

Отменено же крепостное право было Александром Николаевичем Романовым, которого и взорвал благодарный белорус Игнатий Гриневицкий: сам погиб, но и император не спасся.

Что, спрашивается, эффективнее?

Во всех случаях второе. И экономически, и с точки зрения репутации. Свободный человек работает лучше, да и, по крайней мере, ненавидит правителя значительно меньшее число сограждан, нежели при крепостном праве. Есть ведь и такие, кто молится за царя-освободителя. Как ни странно.

В общем, декрет этот – мера глупая и бессмысленная. Хотя бы потому, что деревообрабатывающая отрасль в Беларуси – это, в первую очередь, столярка. Двери, оконные рамы. То, что на стройке нужно. И бегут столяры да плотники не куда-нибудь, а в Россию – благо, визы не нужно, граница открыта, а спрятаться в Таможенном союзе белорусу проще и спокойней, чем таджику. Россия строится, дома возводятся, столярка нужна.

А поскольку платят в России за столярку раза в четыре больше, чем в Беларуси, то никакой цепью, никаким декретом нашего столяра-плотника-работника дома не удержишь. Как говорил тот же император Александр Николаевич в известном рекламном ролике: «Кормить нужно лучше – тогда не улетят». А у нас – улетают.

Более, нежели я, лояльные правительству аналитики и блогеры пишут: мол, чего спохватились, контрактная система в Беларуси давно уже действует! Давно, это правда. Вот только раньше она не была столь бесстыже откровенной. Предполагалось, что государство у нас социальное и защищает, прежде всего, права работников. Оказалось – нет.

У нас уже и анекдоты в связи с этим появились. Мол, в связи с тем, что Беларусь срочно нуждается в модернизации, запрещено увольняться президенту. До тех пор, пока не модернизируемся вместе с ним. Грустный такой анекдот. Для понимающих – грустный.

Поэтому с Новым годом читателей я поздравить не могу. Непонятно, с каким именно годом поздравлять. С 1597 или уже с 1860 годом?

Могу только поздравить с наступающим Рождеством. Праздник надежды на то, что Спаситель все-таки родится.

**Александр Федута.**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ДЛЯ ІМПЕРСКАЙ ПАЛІТЫКІ ПОСТАЦЬ КАЛІНОЎСКАГА, БЕЗУМОЎНА, ВАРОЖАЯ

2013 ГОД АБВЕШЧАНЫ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ СУПОЛЬНАСЦЮ БЕЛАРУСІ ГОДАМ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА. ПРА ПОСТАЦЬ ГЕРОЯ, ЯГО ЗНАЧЭННЕ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ І НАСТУПНЫХ ПАКАЛЕННЯЎ РАЗВАЖАЕ ЛІДАР ГРАМАДСКАГА РУХУ «ЗА СВАБОДУ» АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ.

«Каліноўскі, без сумневу, выбітная асоба ў нашай гісторыі. І асаблівую моц гэты чалавек набірае сёння, калі мы, як гэта адбывалася і ў ягоныя часы, змагаемся за свабоду і за незалежнасць — і тое, і тое пад пагрозай. Кожны народ павінен мець сваіх герояў, свае постаці, на якія ён раўняецца. Беларусам часта бракуе не таго, што іх не было, а шкодзіць тое, што гісторыі не ведаюць. Скажам шчыра, што сёння ў школы і ўніверсітэты зноў вяртаюцца савецкія падручнікі. Яны пішуцца дзеля Масквы для ўсёй постсавецкай прасторы. <…> Між тым кожны народ мае права на сваю трактоўку гісторыі, на свае постаці, і гэтага нам вельмі не хапае».

На думку палітыка, 150-годдзе паўстання, якое будзе адзначацца сёлета, нельга прапусціць. «Каліноўскі, калі змагаўся, напэўна ведаў, што не выйграе ў моцнай рэгулярнай расійскай арміі, але ён хацеў падняць дух народа, — працягвае Мілінкевіч. — Хацеў паказаць, што трэба змагацца за сваю годнасць, трэба людзьмі сябе адчуваць, не быць нявольнікамі. Я думаю, гэты прыклад жыве і сёння — у такія маладыя гады ён пайшоў на шыбеніцу, але пакінуў надзвычай важны след. Прыйдзе час, можа і хутка, калі ў гарадах нашых будуць стаяць помнікі Каліноўскаму. У Гародні, з якой я паходжу, гарвыканкамам на пачатку 1990-х было прынятае рашэнне аб тым, каб устанавіць герою помнік, — яно не выканана да сённяшняга дня, хаця і не адменена. Гэта вельмі важна, каб людзі больш ведалі пра такіх асобаў, больш разумелі, чаму і за што яны змагаліся. І сваю адказнасць перад будучымі пакаленнямі таксама адчувалі, а не толькі ганарыліся мінулым».

Паводле слоў лідара Руху «За Свабоду», у савецкія часы Каліноўскага ўсё ж такі лічылі змагаром супраць царызму, супраць дэспатыі. «Ён выглядаў тады як сацыял-дэмакрат — такая трактоўка была ў камуністаў, — лічыць палітык. — А ў часы, калі не вырашана, мы — самастойная дзяржава ці частка Расіі, мы — еўрапейскі народ ці ідзем на тое, каб стацца акраінай вялікай новай імперыі, тады гісторыя, яе трактоўка падладжваецца пад гэтыя новыя геапалітычныя тэндэнцыі. <…> Для імперскай палітыкі постаць Каліноўскага, безумоўна, варожая, а для расійскіх дэмакратаў гэта такая ж выдатная, як і многія людзі ў іхняй гісторыі».

На думку Мілінкевіча, галоўная роля такіх людзей, як Каліноўскі, — выхаванне новых пакаленняў у любові да сваёй краіны. «Ёсць адна ідэалогія — любіць сваю краіну, ведаць сваю гісторыю, тады ты — моцны, — упэўнены палітык. — Вось гэта ідэалогія кожнага еўрапейскага народа, і мы мусім ісці гэтым шляхам».

**БелаПАН.**

ПРАБЛЕМЫ ЭКАНОМІКІ

# ЭКАНАМІЧНЫЯ ВЫНІКІ-2012: ЯК МЫ ЎСІХ АБЫШЛІ МАЗГАМІ

БЕЛАРУСЬ У МІНУЛЫМ ГОДЗЕ ПРЫНЯЛА ШЭРАГ РАШЭННЯЎ, ПРА ЯКІЯ ІНШЫЯ І НЕ ПАДУМАЛІ Б. У ЕЎРОПЕ І Ў ГАЛАВУ НІКОМУ НЕ ПРЫЙДЗЕ НАЦЫЯНАЛІЗАВАЦЬ КАМПАНІІ, А НАША КРАІНА ГЭТЫ ПРАЦЭС АДНАВІЛА. АБ ПРЫМУСОВАЙ ПРАЦЫ Ў ЦЫВІЛІЗАВАНЫМ СВЕЦЕ ДАЎНО ЗАБЫЛІСЯ, А МЫ ЎЗЯЛІ ГЭТУЮ ПРАКТЫКУ (З МЭТАЙ ВЫРАШЭННЯ ВЫСАКАРОДНЫХ ІНВЕСТЫЦЫЙНЫХ ЗАДАЧ) І РЭАНІМАВАЛІ. ЯШЧЭ АДЗІН ПРЫКЛАД ТАГО, ЯК МЫ ІНШЫХ «АБЫШЛІ МАЗГАМІ» - РАСТВАРАЛЬНЫ БІЗНЭС. МАЛА ХТО МОЖА ЎХІТРЫЦЦА ЗАЛЕЗЦІ Ў КІШЭНЮ СУСЕДА І ВЫЦЯГНУЦЬ КРУГЛЕНЬКУЮ СУМУ, А БЕЛАРУСІ ГЭТА ЎДАЛОСЯ.

**Рэформы растваральніся ў мільярдах**

Тэма растваральнікаў - гэта самае першае, што прыходзіць на розум эканамістам, калі яны пачынаюць успамінаць пра галоўныя падзеі адыходзячага года. Растворительный бізнес запомніўся і рускай, якія ўспрынялі гэтую дзейнасьці, як тыповая крадзеж, і беларусам, якія працягваюць цешыцца лёгка зарабіць грошы.

У першай палове 2012-га растваральнікі сапраўды прынеслі Беларусі нямала грошай. За першае паўгоддзе ад экспарту растваральнікаў наша краіна атрымала больш за два мільярды даляраў. У жніўні Беларусь адправіла апошнюю тону растваральнікаў, і ўвосень эфект іх адсутнасці стаў наглядна бачны.

Калі ўвесну і ўлетку 2012 месячны памер валютнай выручкі ад экспарту тавараў (па дадзеных Нацбанка) вагаўся ў дыяпазоне 3,7-4,2 млрд. даляраў, то ўвосень, калі Беларусь ад экспарту растваральнікаў валюту больш не атрымлівала, памер месячнай выручкі істотна знізіўся (да 3-3,2 млрд. даляраў).

Станоўчы ўплыў растваральнікаў на беларускую эканоміку бясспрэчны: тэмпы эканамічнага росту дзякуючы гэтаму бізнэсу ў першым паўгоддзі выраслі, гандлёвы баланс быў прафіцытнага.

З іншага боку, адзначаюць з сумам назіральнікі, растваральнікі адвялі ў бок Беларусь ад структурных рэформаў, якія здаваліся непазбежнымі пасля валютна-фінансавага крызісу 2011 года.

«Увосень 2011-га пасля валютнага крызісу мы ўшчыльную падышлі да неабходнасці структурных рэформаў у эканоміцы. Аднак у 2012-м з'явіўся танны газ, ільготныя цэны на нафту і растваральнікі, якія стварылі ілюзію, што ў нас у эканоміцы справы ідуць нядрэнна. У выніку сёння аб планах па правядзенні структурных рэформаў мы нічога нават не чуем », - адзначае дырэктар Даследчага цэнтра ІПМ Аляксандр Чубрык.

**Непрыемны сюрпрыз**

Разам з адсутнасцю планаў па рэфармаванні эканомікі яшчэ адным расчараваннем гэтага года можна лічыць распачаты працэс нацыяналізацыі. Нават самыя песімістычныя прагнозы на 2012 год не меркавалі, што дзяржава пойдзе на адзяржаўленьне прыватных кампаній.

«Самы непрыемны сюрпрыз - рэзкі разварот у бок нацыяналізацыі і парушэння правоў прыватнай уласнасці, што выявілася ў цэлым шэрагу рашэнняў. Не верылася, што нават невялікі сектар прыватнай эканомікі, які існуе ў нас у краіне, можа выклікаць лютасць з боку дзяржавы », - кажа кіраўнік Навуковага даследчага цэнтра Мізэса Яраслаў Раманчук.

Падрыхтоўка рэйдэрскага захопу прыватных кампаній - адна найважнейшых тэндэнцый 2012 года, мяркуе эксперт. «Нацыяналізацыя прадпрыемстваў, падрыхтоўка законапраекта, які прадугледжвае магчымасць увядзення дзяржаўных прадстаўнікоў у прыватныя кампаніі - гэта звёны аднаго ланцуга, што называецца Back in the USSR», - адзначае Раманчук.

Беларускія эканамісты і інвестконсультанты сыходзяцца ў меркаванні, што пасля выпадкаў нацыяналізацыі Беларусі будзе складана прыцягнуць інвестараў у прыватызацыйныя праекты.

«Пасля вядомых падзей мы рэальна можам разлічваць на прыцягненне інвестыцый толькі ў Грынфілд (вытворчасці, ствараюцца з нуля)», - мяркуе эканаміст Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра (BEROC) Марыя Акулава.

Разам з Нацыяналізацыя яшчэ адно рашэнне, якое супярэчыць планах па прыцягненні інвестыцый, выявілася ў адмове дзяржавы ад прыватызацыйных спісаў. Увесну гэтага года прэзідэнт даручыў адмяніць такога роду спісы, у выніку чаго нават раздзяржаўленне малых прадпрыемстваў, якое назіралася ў 2011 годзе, спынілася.

«2012 год паказаў, што мы не гатовыя ісці па шляху прыватызацыі, па стандартным шляху рэфармаванні дзяржуласнасці і працягваем прытрымлівацца старой палітыкі ў гэтым пытанні», - канстатуе Марыя Акулава.

**Мадэрнізацыя з дапамогай прымусовай працы**

У 2012 годзе афіцыйны Менск крэатыўна падышоў да рэалізацыі інвестыцыйных праектаў. На дрэваапрацоўчых прадпрыемствах пасля выдання дзявяты дэкрэта была ўведзена адмысловая форма працоўных адносін - кантракт, заключаны на час рэалізацыі інвестпраектаў, які нельга скасаваць па ініцыятыве (і нават па патрабаванні) работніка.

Фактычна, асабліва з улікам рыторыкі, якая папярэднічала з'яўленню дэкрэта, гаворка ідзе аб прымусовай працы. «Да заканчэння мадэрнізацыі і рэканструкцыі забараняецца звальненне работнікаў. Працаўнік не можа звольніцца з прадпрыемства без дазволу кіраўніка. Адпусціць - няхай сыходзіць, не адпусціць - павінен працаваць. За парушэнне - на прымусовыя работы », - заявіў у лістападзе Аляксандр Лукашэнка, даручаючы перагледзець умовы працы на дрэваапрацоўчых прадпрыемствах.

Дзевяты дэкрэт, якім новы фармат працоўных адносін быў замацаваны юрыдычна, стаў праявай таго, як далёка можа зайсці мысленне беларускіх уладаў у кірунку адміністравання эканомікі. Зараз зразумела, што абмежаванняў тут няма, і рашэнні, якія еўрапейскім чыноўнікам не могуць прыйсці ў галаву, у Беларусі магчымыя.

Адзінае пытанне, які застаўся пасля выхаду дзевятага дэкрэта - ці закране новая практыка працоўных адносін іншыя прадпрыемствы, якія не датычацца дрэваапрацоўкі? Цалкам магчыма. У урадавай прэзентацыі, якая раздавалася журналістам у верасні на прэс-канферэнцыі Міхаіла Мясніковіча, гаворыцца пра тое, што ў 2013 годзе «мадэрнізацыяй будуць ахоплена больш за тысячу дзяржпрадпрыемстваў». Таму інвестпраектаў павінна рэалізоўвацца шмат. У гэтым кантэксце дзяржаве можа зноў спатрэбіцца норма дэкрэта №9, згодна з якой «скасаванне кантракта ў перыяд рэалізацыі інвестыцыйных праектаў па ініцыятыве работніка магчыма толькі са згоды наймальніка».

Рэзюмуючы вынікі 2012 года, можна сказаць, што ў краіне захавалася старая эканамічная палітыка, якая базуецца на давядзенні мэтавых паказчыкаў (напрыклад, па росту заробкаў) і дамінаванні дзяржсектара. Спробаў рэфармаваць існуючую эканамічную мадэль ў 2012 годзе не рабілася. Больш за тое, у першым паўгоддзі, калі існаваў растваральны бізнэс, здавалася, што рэфармаваць яе і не трэба. У другой палове года ўлады паказалі, што гатовыя існуючую эканамічную мадэль ўтрымліваць любымі шляхамі (нацыяналізацыя прыбытковых прадпрыемстваў, прымусовая праца), і гэта, мякка кажучы, насцярожвае.

Чытаць цалкам: naviny.by

**Дзмітрый ЗАЯЦ.**

ТАКІЯ "ДАЖЫНКІ"

# ГОРКІ: АХВЯРЫ «ДАЖЫНАК»

НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ ЖЫХАРЫ РАЙЦЭНТРУ ГОРКІ ПРАЦЯГВАЮЦЬ СУТЫКАЦЦА ЗЬ НЕДАРОБКАМІ БУДАЎНІКОЎ, ЯКІЯ РЫХТАВАЛІ ГОРАД ДА «ДАЖЫНАК». ДНЯМІ Ў ЦЭНТРЫ ГОРАК СЯМЕЙНАЯ ПАРА ПРАВАЛІЛАСЯ ПАД БРУК.

Муж і жонка ўвечары выйшлі на шпацыр. На падыходзе да Цэнтральнай плошчы райцэнтру, якая да «Дажынак» называлася плошчай Леніна і якую перад фэстам цалкам рэканструявалі, усё і здарылася.

«Ішлі, размаўлялі, трымаліся за рукі — і раптам праваліліся пад плітку. Жонка так спалохалася, што не магла размаўляць і не магла ўстаць. Яе ногі не трымалі. Усё трэслася. Яна наагул не разумела, што адбываецца. Можа, добра, што мы туды трапілі маладыя — дык хоць вылезьці змаглі. Каб туды сталага веку чалавек папаў, або дзіця, або маці зь дзіцем, то наступствы былі б нашмат горшыя», — апавядае пра здарэньне спадар Алег.

Паводле суразмоўцы, шкода абмежавалася шокам у жонкі і запэцканай вопраткай. Тым ня менш, у гутарцы сямейнікі заяўлялі, што зьбіраюцца судзіцца.

Сёньня ў аддзеле жыльлёва-камунальнай гаспадаркі райвыканкаму паведамілі, што канфлікт удалося залагодзіць: «Цеплавая энэргетыка не адмаўляецца ад сваёй віны. Яна згодная ім усё аплаціць. Няхай прад'яўляюць выдаткі. Там атрымалася так, што труба вычарпала свой тэрмін прыдатнасьці і зьявілася трэшчына. У выніку вымываўся грунт», — прызнала супрацоўніца аддзелу.

Здарэньне зь сямейнай парай — першае ў Горках пасьля «Дажынак», якое магло скончыцца бядой. Пакуль абышлося. Тым ня менш, яно нагадвае, што недаробак у пасьлядажынкаўскім райцэнтры засталося багата.

Плітку, як кажуць жыхары Горак, клалі насьпех. У першую ж залеву яе пачало змываць.

За брукам тэрміновага рамонту запатрабаваў культурна-забаўляльны комплекс. Яго заліло вадой. Людзі сьцьвярджаюць, што ён ня быў як сьлед падрыхтаваны да «Дажынак», якія ўрачыста адкрыў Аляксандар Лукашэнка. Ці давялі да ладу комплекс, тутэйшыя жыхары ня ведаюць.

Фота з горацкімі недаробкамі ў інтэрнэце зьбіраюць багата камэнтароў. Так было, калі змыла плітку. Тое ж паўтарылася, і калі студэнты акадэміі ілюстравалі фотаздымкамі ўмовы пражываньня ў інтэрнатах, зьдзеленых да «Дажынак». У пакоях стаяла вільгаць, рэчы псаваліся. Тэма рамонту амфітэатру таксама сталася адной з самых папулярных. Цяпер актыўна камэнтуюцца фота зь сямейнай парай, якая правалілася пад брук.

**"Радыё Свабода".**

ЭКАНАМІЧНЫ ПРАГНОЗ

# ЦІ ВЫТРЫМАЕ ЭКАНОМІКА Ў «ГОД БЕРАЖЛІВАСЦІ»?

ЕЎРАРАДЫЁ РАЗАМ З З ДАПАМОГАЙ ВЯДОМЫХ ЭКСПЕРТАЎ ПАСПРАБАВАЛА СКЛАСЦІ ЭКАНАМІЧНЫ ПРАГНОЗ НА 2013 ГОД.

"Я думаю, што ў параўнанні з гэтым годам мала што памяняецца. Хіба, у галіне прыбыткаў… Маўляў, раней яны раслі да 500 долараў, а далей давайце самі", – расказвае Еўрарадыё Сяргей Чалы.

Эканаміст не чакае нейкіх пертурбацый у надыходзячым годзе. Гаворыць, што яны нікому не патрэбныя. Ваганні асноўных паказчыкаў эксперт прадказвае ў межах 10%. Курс долара на канец восені 2013 Чалы бачыць у межах 9200-9500 рублёў.

Калега Сяргея Чалага, Леанід Злотнікаў, апісвае куды больш апакаліптычныя краявіды. На думку эканаміста, для падтрымкі узроўню дабрабыту, пастаўленага ў 2012 годзе, ураду Беларусі ў 2013 годзе спатрэбіцца ажно 8 мільярдаў долараў. Калі дадаць сюды тры мільярды, якія неабходна выплаціць па крэдытах, то атрымоўваецца надзвычай кругленькая сума. І калі частку можна будзе "наскрэбсці", дзякуючы крэдытам ад ЕўрАзЭС і Кітая, то прыкладна 8 мільярдаў давядзецца браць немаведама адкуль. Злотнікаў гаворыць, што нас можа чакаць адток валюты, а за ім інфляцыя і ўсе іншыя "цуды".

"Ну вось, мы бачым, што ёсць як мінімум дзве праблемныя рэчы – надтрыманне дабрабыту насельніцтва і выплата пазык. І вось гэтыя рэчы моцна ўплываюць на адток валюты з Беларусі".

Кампенсаваць яго можна будзе дзякуючы продажу дзяржаўнай маёмасці. Леанід Злотнікаў перакананы, што ў 2013 годзе нас чакае новая хваля прыватызацыі. І калі ўсё будзе добра, то курс долара на канец года складзе прыкладна 9500 рублёў. Калі ж не, то ўжо вясной можна чакаць і 14-ці тысяч за долар.

А вось фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра кампаніі "Альпары" ў Мінску Вадзім Іосуб прадказвае, што мы ўжо ў хуткім часе можам зразумець, чаго чакаць ад 2013-га. Эксперт бачыць дзве плыні ва ўладных структурах – Нацбанк, які адстойвае больш жорсткі накірунак, і урад, які зацікаўлены ў выкананні праграмных пастановаў. "Вось цяпер асноўная інтрыга заключаецца ў тым, ці будуць прыняты нейкія персанальныя рашэнні. Бо ў 2012 годзе план па росту ВУП у памеры 5,5% не быў выкананы".

Прагноз Іосуба на курс долара не адрозніваецца ад меркаванняў калег па цэху – тыя ж 9500 на канец года. Калі ж Беларусь абярэ новага прэм'ера і возьме накірунак на дасягненне 8%-га росту ВУП на 2013 год – "цуды" нас могуць чакаць ужо вясной.



САЦЫЯЛЬНЫЯ ПЫТАННІ

# ЧАМУ НЕ ЎСЕ БЕЛАРУСЫ ЗАРАБЛЯЮЦЬ 500 ДОЛАРАЎ

ДА КАНЦА 2012 ГОДА БЕЛАРУСЬ, ЯК І ПЛАНАВАЛАСЯ, ПРЫЙШЛА ДА СЯРЭДНЯЙ 500-ДАЛЯРАВАЙ ЗАРПЛАЦЕ. АДНАК АПОШНІЯ ДАДЗЕНЫЯ ПРА ЗАРОБКІ Ў КАРПАРАТЫЎНЫМ СЕКТАРЫ ПАКАЗВАЮЦЬ, ШТО 500-ДАЛЯРАВУЮ ЗАРПЛАТУ АТРЫМЛІВАЮЦЬ ДАЛЁКА НЕ ЎСЕ: У МЕНСКУ ЯЕ МНОГІЯ ЗАРАБЛЯЮЦЬ, А Ў РЭГІЁНАХ СІТУАЦЫЯ ЗУСІМ ІНШАЯ. ЧАМУ ЗА МЕЖАМІ МІНСКА ПРАЦА ШАНУЕЦЦА МЕНШ? ЧЫЕ ДАХОДЫ БОЛЬШ ЗА ЎСЁ ПАВЯЛІЧЫЛІСЯ? "ПРАЦОЎНЫЯ" ВЫНІКІ 2012 ІНТЭРНЭТ-ГАЗЕТА NAVINY.BY ПАДВЯЛА РАЗАМ З ЭКСПЕРТАМІ КАДРАВАГА РЫНКУ.

**Чаму працадаўцы мала плацяць?**

У снежні беларусы атрымалі лістападаўскі зарплату, якая ў сярэднім склала 4.244.270 рублёў, што ў эквіваленце амаль 500 долараў. Аднак калі паглядзець, адкуль сярэдняя зарплата ўзялася, можна зрабіць цікавыя высновы.

Па дадзеных афіцыйнай статыстыкі, у лістападзе спісачная колькасць работнікаў прадпрыемстваў, на аснове звестак якіх выводзіцца сярэдняя зарплата, складала 3,36 млн. чалавек. Размеркаванне работнікаў па памеры налічанай зарплаты паказвае, што больш за палову спецыялістаў, якія ўлічваюцца афіцыйнай статыстыкай, атрымліваюць сярэднюю зарплату менш за 4 млн. рублёў.

Але цікава нават не гэта. Статдадзеныя паказваюць, што розніца паміж узроўнем аплаты працы ў Мінску і ў рэгіёнах вялікая.

**Размеркаванне работнікаў арганізацый па памеры зарплаты**
(*У працэнтах да выніку*)

| | от 1 до 2 млн. рублей | от 2 до 3 млн. рублей | от 3 до 4 млн. рублей | от 4 до 5 млн. рублей | от 5 млн. рублей и выше |
|---|---|---|---|---|---|
| **Республика Беларусь** | **1,2** | **27,2** | **25,9** | **22,5** | **23,2** |
| Брестская | 2,3 | 38,3 | 24,3 | 22,5 | 12,6 |
| Витебская | 2,8 | 35,5 | 33,1 | 18,7 | 9,9 |
| Гомельская | 0,6 | 32,3 | 26,2 | 25,3 | 15,6 |
| Гродненская | 1,0 | 38,6 | 25,6 | 22,5 | 12,3 |
| г. Минск | 0,3 | 6,6 | 21,5 | 24,6 | 47,0 |
| Минская | 1,9 | 32,9 | 26,0 | 16,8 | 22,4 |
| Могилевская | 0,9 | 30,7 | 31,0 | 24,5 | 12,9 |

*Крыніца: Белстат*

Як бачым, чым вышэй зарплата, тым менш яна характэрная для рэгіёнаў і тым часцей яна сустракаецца ў Мінску. Так, заробак большы за 5 млн. рублёў атрымліваюць 47% сталічных работнікаў, а ў рэгіёнах такой даход характэрны, як правіла, для 10-15% супрацоўнікаў. І наадварот: зарплата ад 2 да 3 млн. рублёў - самая папулярная ў рэгіёнах: у абласцях яе атрымліваюць больш за 30% работнікаў. У той жа час у Менску гэты ўзровень даходу характэрны толькі для 6,6% спецыялістаў, якія ўлічваюцца афіцыйнай статыстыкай.

Такім чынам, казаць аб тым, што беларуская зарплата дайшла да 500-даляравай адзнакі можна толькі з вялікімі агаворкамі. Шмат хто з суайчыньнікаў яе не атрымліваюць, а тыя, хто мае такі даход, жывуць, як правіла, у Мінску.

Заробкі ў сталіцы звычайна вышэй, чым у рэгіёнах па некалькіх прычынах, кажа дырэктар HeadHunter: Беларусь, праект RABOTA.TUT.BY Святлана Шапорава.

«Па-першае, самае відавочнае - у сталіцы вышэй колькасць насельніцтва, чым у абласных цэнтрах, вышэй узровень жыцця і спажывання паслуг. Як правіла, вышэйшыя кошты, а значыць, людзям патрабуецца плаціць больш грошай, каб яны маглі падтрымліваць прымальны ўзровень жыцця. Па-другое, у сталіцы заўсёды канцэнтруецца буйны бізнэс, галаўныя офісы замежных кампаній. Нарэшце, у сталіцы заўсёды вышэй канкурэнцыя за высокакваліфікаваных працаўнікоў. Кампаніі, жадаючы наняць самага лепшага, гатовыя ладзіць гонку заробкаў », - адзначае Святлана Шапорава.

Кіраўнік дэпартамента падбору персаналу кансалтынгавай групы «Тут і Цяпер» Вольга Надтачаева таксама тлумачыць розніцу ў заробках у сталіцы і ў рэгіёнах розным узроўнем канкурэнцыі на рынку працы.

«У Менску мы бачым, што ідзе канкурэнцыя паміж працадаўцамі за кваліфікаваных спецыялістаў, і гэта рухае зарплаты ўверх. У рэгіёнах іншая сытуацыя: галоўную скрыпку там, як правіла, гуляюць горадаўтваральныя прадпрыемствы. У той жа час малы і сярэдні бізнэс у абласцях развіты ў меншай ступені. Адпаведна, працадаўцам няма вострай неабходнасці змагацца за персанал, і канкуруюць паміж сабой ужо суіскальнікі на працоўным месцы, што прыводзіць да больш нізкай аплаце працы », - кажа Вольга Надтачаева.

Па назіраннях эксперта, у рэгіёнах людзі нярэдка шукаюць працу проста для таго, каб было за што жыць. «У сталіцы, каб знайсці супрацоўніка на заробак у 2 млн. рублёў, трэба паспрабаваць. У рэгіёнах зваротная сітуацыя: суіскальнікі шукаюць магчымасць, дзе гэтыя 2 млн. рублёў можна зарабіць », - канстатуе Вольга Надтачаева.

Праўда, варта адзначыць, што паводзіны некаторых працадаўцаў адрозніваецца, і яны гатовыя нават у рэгіёнах прапаноўваць высокія зарплаты. Кансультант кадравага агенцтва «Анкор» Ганна Коршак канстатуе, што замежныя кампаніі, якія прыходзяць у рэгіёны, часта арыентуюцца на сталічны ўзровень заробкаў спецыялістаў.

«Замежныя кампаніі, з якімі мы працуем, прапануюць у рэгіёнах прыкладна такія ж умовы аплаты працы, што і ў Мінску. Больш за тое, заробак у рэгіёнах можа быць вышэй сталічнай, так як кампаніям у шэрагу выпадку даводзіцца прыцягваць у рэгіёны спецыялістаў з Мінска », - кажа Ганна Коршак.

Чытаць цалкам: naviny.by.

**Дзмітрый ЗАЯЦ, "Белапан".**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 15.01.2013 у 22.30.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.